№ 2-3 [5-6] Люты - Сакавік 1948 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 30 фр.

Адрыс радакцыі:
Adresse : Redaction, 35, rue de Sèvres, Paris (6).

Падпісная цана на год 300 фр.

# Трыццатыя угодкі

Сёлета Беларускі народ перажывае вялікі дзень у сваёй гісторыі — трыццатыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Ад 1918 г. дзень 25-III стаўся падвойным сьвятам. У гэты дзень паводля новага стылю Хрыстова Царква сьвяткуе памяць Дабравешчаньня Найсьвяцейшае Дзевы Марыі — гэта дзень, калі Бог пачаў выконваць свае прырачэньні аб выкупленьні ад грахоў людзкога роду. У гэты-ж дзень можа прыпадаць і Вялікдзень (як гэта будзе ў 1991 г.) — сьвята самага адкупленьня, перамогі жыцьця над сьмерцю — Уваскрасеньня Хрыста. І ў гэты дзень Беларускі народ азначае выяўленьне свае волі да незалежнага і свабоднага жыцьця, якую выказаў вуснамі сваіх прадстаўнікоў 25 сакавіка 1918 г.

Да гэтага, так нязвычайнага дня, яшчэ далучаюцца нязвычайныя абставіны, у якіх адбылося прагалошаньне акту незалежнасьці. Пасьля доўгіх нарадаў і разважаньняў, абмяркоўваючы ўсебакова тагачаснае становішча Беларусі радныя Беларускае Народнае Рэспублікі ноччу з 24 на 25 сакавіка, улажылі акт, які выяўляў найшчырэйшыя жаданьні Беларускага Народу, і як тольکі першыя праменьні ўсходзячага сонца асьвяцілі салю нарадаў дня 25 сакав. ў 6 гадзін раніцы старшыя Рады адчытаў пастанову, у якой гаварылася: «...Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і Вольнай Дзяржавай».

Варожыя сілы моцна былі закарэнены на беларускай зямлі і не далі магчымасьці ўпоўні ажыцьцявіць гэты акт. Пасьля зацятага змаганьня, Беларусь была акупавана і падзелена варожымі дзяржавамі, але сам акт 25-III ад 1918 г. стае пуцяводнаю зоркаю для ўсяго Беларускага Народу ў яго туземных імкненьнях.

Калі мы кінем хоць кароткі позірк на пройдзены трыццацігадовы шлях, дык пабачым, што гэты шлях быў цярністы і крывавы; шмат крыжоў і ахвяраў азначаюць яго, але адначасна было падолена шмат перашкодаў і цяжкасьцяў. Не зважаючы на ахвяры рады змагароў штораз пабольшваюцца і мацнеюць; нават тыя, якія доўгі час стаялі збоку ад змаганьня зачынаюць прылучацца да арміі змагароў за ідэалы 25-III, а самае змаганьне стае штораз больш зацятым, але адначасна штораз больш надзейным на поўнае зьдзейсьненьне таго сьветлага акту аб Незалежнасьці Беларусі.

Сёньня мы сьведамы больш як калі, што нічога ў туземным жыцьці ня прыходзіць само. Добры Бог кожнаму чалавеку і кожнаму народу дае неабходныя фізычныя і духовыя сілы для асяг-

**УСІМ НАШЫМ ПЕРАДПЛАТНІКАМ І ЧЫТАЧОМ ЛАЦІНСКАГА АБРАДУ З НАГОДЫ ВЯЛІКОДНЫХ СЬВЯТ ЖАДАЕМ ВЯСЁЛАГА АЛЕЛЮЯ!**

ненььня ўсяго таго, што ёсьць неабходнае для жыцьця, і ўспамагае гэтае дзеяньне сваёю помаччу, але дзеяньне і змаганьне неабходнае.

Паводля Божага пляну, жыцьцё часам ідзе дзіўнымі і незразумелымі для нас шляхамі, але даходзіць да азначанае мэты, таму і мы верым, што Бог нам не адмовіць свае помачы ў ажыцьцяўленьні найшчырэйшага жаданьня народу — вольнага і незалежнага жыцьця. Трыццаць гадоў Хрыстос жыў укрытым жыцьцём, пакуль зачаў выконваць сваё пасланства; за гэты час мусіў уцякаць у далёкі Егіпет, мусіў зьмяніць сваё мейсца жыхарства, а потым займацца звычайнаю сталяркаю, — але ад гэтага Ён не перастаў быць Хрыстом і Сынам Божым. Гэтым наш Боскі Збаўца даў нам прыклад цярплівага жыцьця на эміграцыі і карыснага яго выкарыстоўваньня для Божае славы і дабра свайго Народу.

Мы сёньня верым больш чым калі, што ў выніку супольнага чыну Беларускага Народу, настане такі дзень, калі Беларусь паўстане да вольнага і незалежнага жыцьця згодна з актам 25-га сакавіка, і магчыма, што гэты дзень недалёкі.

# Згубны выбар

Адзін раз у гісторыі сьвету здарылася бяспрыкладная падзея: — Прадстаўнік рымскае імпэратарскае ўлады ў Ерузаліме, Пілат, на дамаганьне жыдоўскіх старшынаў асудзіць нявіннага Ісуса Хрыста, ставіць побач Хрыста разбойніка Вараўву і зьвяртаецца да сабраных жыдоў і іх старэйшын:

— Каго хочаце, каб я вам зволніў: Вараўву ці Ісуса называнага Хрыстом (Мат. 27, 17).

Сабраныя хоць прыйшлі ўмысна, каб асудзіць Хрыста, жахнуліся ад гэткага супастаўленьня сьвятасьці і злочыну. Усе там прысутныя ведалі добра Хрыста; бачылі яго шматлікія цуды; яшчэ сьвежае ў памяці было ўваскрашэньне Лазара; чулі Яго навуку; чатыры дні таму назад яны віталі Яго ўезд у Ерузалім воклічамі: Асанна! кідаючы пад ногі Яго асла сваю вопратку і зелень; пад неба луналі іх клічы: «Багаслаўлёны йдучы ў імя Гасподне!» (Мат. 21, 9). Адначасна яны ўсе добра яшчэ мусілі помніць вулічныя бунты і забойствы, якія рабіў Вараўва (Лук. 23, 19). — І вось яны цяпер мусяць выбіраць сабе, хто ім больш да спадобы, хто ім больш патрэбны. Супастаўленьне вельмі разячае, выбар вельмі адказны, але да гэтага дайходзіць яшчэ адзін прамень, які яшчэ больш вырознівае і супроцьставіць дзьве постаці, між якімі трэба выбраць. Жыдоўскія старшыні і сьвяшчэньнікі выкарыстоўваюць кароткую размову Пілата з пасланцом ад яго жонкі, што якраз тады надышоў, падбухторваюць і падкупліваюць сабраных, каб прасілі звольніць разбойніка Вараўву. На паўторны заклік Пілата, каго яны сабе жадаюць, усе сабраныя ў адзін голас пачалі крычаць: «Адпусьці нам Вараўву!»

Жутка робіцца чытаючы гэты разьдзел у сьв. Евангельлі Так і чуем далейшыя крыкі: «Распні Хрыста, Ён нам за сьвяты; вон Яго, Ён нам за дасканалы. Давай нам Вараўву, ён наш чалавек!»...

Але мы сёньня, ці мы не паўтараем часам таго самага?

Як і дзе? спытае не адзін.

На кожным кроку. Хрыстос не пакінуў сьвету. Ён з намі астаўся назаўсёды, дарма што шмат хто аб гэтым нават і ведаць ня хочуць. Ён, той самы Хрыстос, што і калісь, сёньня пад відам Найсьвяцейшае Еўхарыстыі чакае сваіх вернікаў, каб даць ім сваё багаславенства, чакае, калі пойдуць за Ім, адкупленыя Яго крывёю, людзі. Яго навука, Яго прыказаньні тыя самыя сёньня, што і калісь чакаюць, калі пачнём іх практыкаваць у нашым штодзенным жыцьці, — але як-жа часта мы ў нашым выбары: што рабіць? робім якраз тое, чаго Хрыстос ня хоча, што Яму ня міла і праціўна.

Тая толькі розьніца між даўнейшым выбарам перад Пілатам і нашым сёньняшнім, што тады больш яўна бачылі каго выбіраць і ўсе грамадою крычалі: «Адпусьці Вараўву, а Хрыста ўкрыжуй», а сёньня некаторыя можа гэтага ня бачаць і паасобку робяць тое самае, што і калісь. Але ці раз здараюцца выпадкі, гдзе дзеюцца рэчы горшыя, чым калісь перад Пілатам? Бо калісь там сабраныя ня зналі, што Хрыстос гэта Сам Бог і што Яго навука, гэта адзіная спасённая, а сёньня гэта добра ведаюць і міма гэтага колькі ёсьць такіх, што робяць усё магчымае, каб толькі Хрыста ня слухаць, а колькі такіх, што супроць Яго змагаюцца?

Бо з волі Бога, чалавек заўсёды меў і мае магчымасьць і нагоду выбіраць. З волі Бога два жыцьцёвыя шляхі мае да выбару кожны: «Шырокія вароты і вольны той шлях, што вядуць да загубы... і цесныя вароты і вузкі той шлях, што вядуць у жыцьцё». (Мат. 7, 13-14). — Выбірай кудою хочаш ісьці.

У нядзелю на крыжаваньні вуліц стаіць чалавек; з аднаго боку царкоўныя званы клічуць яго, а з другога кабарэтная музыка — каторага клічу лепш паслухаць?

Дзьве афішы наклееныя побач: адна заклікае на бязбожны мітынг, а другая на дабрадзейныя зборы, — куды лепш пайсьці?

Два галасы змагаюцца ў сумленьні: ці даваць крыўду майму сябру, ці адпомсьціць?

У суседа сталася няшчасьце, яму патрэбна хуткая помач і я магу яму памагчы, але магу наадварот даканаць яго і сам пры гэтым пагрэць добра рукі, — што рабіць? ці памагчы падняць, ці дабіць?

Цнота і распуста вабяць у розныя бакі; першая сваею велічу і красою, а другая сваімі гідкімі хвілёвымі прыемнасьцямі і бясстрыманасьцю.

Дзьве постаці ўсьмяхаюцца да кожнага: адна вабіць у свае абыймы і ўжо рыхтуе палкія пацалункі, а другая чэснае і ўстрыманае жыцьцё. Каторую лепш выбраць?

І ўсюды над кожнаю з гэтых сцэнаў нябачна ўздыймаюцца: або цёмная постаць Варавы, або ясьнеючае аблічча Хрыста, а голас у сумленьні паўтарае словы Пілата: «Выбірай, каго хочаш!»

Кожны і можа і мусіць сам свабодна выбраць, або разбойніка Варавву і прадаўжаць яго вулічны разбой, грабяжы і зьдзекі, ды далей заліваць зямлю людзкою крывёю, — ці пайсьці сьледам за Хрыстом, выконваць яго навуку і прыказаньні, церпяліва прайсьці разам з Ім праз Галгофту і разам належаць да Божага Валадарства і вечнае славы. У гэтым і ёсьць сэнс нашага жыцьця тут на зямлі, каб не паўтарыць таго згубнага выбару, які аднойчы быў зроблены перад Пілатам, каб не ашуканца рознымі дачаснымі прыманкамі, але цьвёрда і непахісна йсьці за Хрыстом аж да пераможнага канца, да вечнага шчасьця.

Хацелася-б, каб гэтых пару слоў дайшло да сэрца і да волі сучаснае нашае эміграцыі. Бо калісь на роднай зямлі, жывучы ў асяродзьдзі нашых адвечных здаровых маральных звычаяў, лягчэй было знайсьці і трымацца здаровага шляху. А тут на чужыне, адарваныя ад родных карэньняў, выстаўленыя на нязьлічаныя цяжкасьці часам няўпрыцям пакідаюць Хрыста ды йдуць у кампанію Варавы. Справа нашага збаўленьня, вечнага жыцьця, або мукі вымагае ад нас добрага выбару і гэта мы мусім зрабіць.

**а. Леў.**

# Перадумовы веры

Веруючыя і недаверкі спатыкаюцца ўва ўсіх пластох грамадзтва, так між людзьмі вучонымі, як і невукамі. Сёньня напрыклад цяжка нават з большаю прыблізнасьцю сказаць, дзе адных больш, а другіх менш.

Калі прымем пад увагу, што для таго, каб у нешта верыць, перш трэба яго пазнаць, хоць у галоўных рысах, паводле слоў апостала: «Як верыць у Таго, аб Кім ня чулі? Як чуць без абвяшчэньня?» (Рым. 10, 14), дык з гэтага магло-б здавацца, што веручых людзей мусіць быць больш між вучонымі; між тымі людзьмі, якія ўзбагачваюць людзкую веду. У запраўднасьці аднак не заўсёды так ёсьць і гэтага факту даволі, каб пераканацца, што самая веда ня выстарчае да веры.

Чаму гэта так?

Перадусім таму, што акт веры ёсьць актам ня толькі розуму, але так-жа актам свабоднае волі. Душа чалавека, як і іншых духовных істотаў, мае дзьве асноўныя сілы: розум і свабодную волю; абедзьве гэтыя сілы мусяць садзейнічаць для ўтварэньня акту веры. Калі-ж дзеля якоесьці прычыны некаму неспадабаецца пазнаная праўда, дык не зважаючы на найбольш ясныя і пераконваючыя доказы, можа гэтае праўды ня прыняць. Свабодная воля і палягае на гэтым, што яна ўва ўсіх абставінах мае права выбару; нешта прыняць, або не. Тут вось і ёсьць адна з галоўных прычынаў недаверства.

Гісторыя сьвету і гісторыя чалавецтва маюць вельмі шмат асьцерагаючых і яскравых выпадкаў недаверства, якія выразна сьведчаць, што ў акце веры нельга выключна пакладацца на самую веду.

Хто мог знаць лепш Бога, як ангелы, якія бачылі Яго «тварам у твар»? Аднак і спаміж іх знайшліся некаторыя, што збунтаваліся супроць Бога і ў вынукі сталіся нячысьцікамі-чарцямі.

Юда Іскарыоцкі ўвесь час праз тры гады хадзіў з Хрыстом, слухаў Яго навуку, бачыў Яго цуды, аднак стаўся зраднікам і прадажнікам.

У прыповесьці аб багачу і Лазару Хрыстос вуснамі Аўраама адказвае багачу, які просіць паслаць Лазара з таго сьвету сваім братом недаверкам, што яшчэ жылі на зямлі, каб асьцерагчы і абразуміць іх: «Калі Майсея і прарокаў ня слухаюць, дык калі-б хто і з памёршых уваскрос, не паверацъ» (Лук. 16, 31). І запраўды падобнае здарэньне мела мейсца. Фарысэі і жыдоўскія старшыні, пасьля таго, як расьпялі Хрыста, успомнілі прароцтва самога Хрыста, што Ён мае ўваскроснуць на трэці дзень. Каб да гэтага не дапусьціць, з дазволу Пілата ўмацоўваюць і запячатваюць гроб, дзе палажылі цела Хрыста і стаўляюць пры ім варту з рымскіх жаўнераў, якія былі ведамыя на ўвесь сьвет з свае жалезнае дысцыпліны. Калі-ж, не зважаючы на гэтыя бясьсільныя мерапрыемствы, Хрыстос уваскрос, дык жыдоўскія старшыні замест паверыць ў Яго, зараз-жа стараюцца перакупіць ваякаў і распаўсюдзіць фальшывыя весткі.

Не ад рэчы тут будзе ўспомніць вымоўны выпадак з ведамым францускім пісьменьнікам Э. Золя. У 1892 г. Э. Золя ўмысна паехаў у мейсца шматлікіх ласкаў і цудаў — Люрд, каб сваімі вачыма глянуць на тое, што там дзеялася. Прабыў там 14 дзён і за гэты час быў сьведкам аж некалькіх цудоўных аздараўленьняў, аднак міма ўсяго гэтага ў сваёй кніжцы аб Люрдзе падаў фальшывыя і перакручаныя факты. Няпраўда было запраўды крычачая. Напрыклад ён апавядае, што аздароўленая сухотніца, краўчыха Марыя Лябрэн, як толькі вярнулася дамоў, зноў сталася сьмяротна хвораю. Між тым гэная Лябрэн выйшла замуж і жыла ды працавала шчасьліва з сваім сужонкам. Гэты яскравы факт хлусьні для Золі быў вельмі няпрыемны, але замест таго, каб адклікаць сваю манлівую пісаніну і самому стацца веруючым, ён у 1896 г. зьявіўся ў памешканьні Марыі з прапазыкаю, шчодра ёй заплаціць за тое, калі яна выедзе з Францыі ў якоесь нязнанае мейсца. За гэтую прапазыку сужонак Марыі выкінуў пісьменьніка з памешканьня.

Асабліва яскравыя выпадкі супярэчнасьці з праўдаю можна спатыкаць у дзейнасьці ваюючых бязбожнікаў. Вельмі часта яны сьведама перакручваюць праўду і вымагаюць гэткае дзейнасьці ад усіх сваіх пасьлядоўнікаў. У 1927 г. савецкае Дзяржаўнае Тэхнічнае Выдавецтва выдала цікавую кніжку інж. Ф. М. Коняева «Урал и Библия», дзе паводле ўсіх навучных досьледаў даказвалася гістарычнасьць апавяданьня Біблії аб патопе. У адказ на гэтую кніжку камуністычная газэта «Правда» у тым-жа 1927 г. Нр. 178 зьмясьціла крыклівы артыкул нейкага таварыша Сапожнікава, які і вухам не вядзе на праўдзівасьць адкрыцьця, але для яго самае важнае, «якое гэта ўражэньне робіць на масы?» Уканцы свайго артыкулу бяссорамна падае такую раду: «Трэба было агулам схаваць гэтае адкрыцьцё пад спод і зьлегкаважыць праўду». Пасьля гэтага ці трэба яшчэ лепшага дакуманту людзкога вераломства ў аблічча пазнанае праўды?

Але тут зноў напрошваецца пытаньне: Чаму так дзеецца?

Шмат ёсьць на гэта прычынаў, але найважнейшаю ёсьць тое, што воля чалавека часта прывязваецца так да нейкага прадмету ці ідэі, што стае быццам нявольніцаю прадмету свайго ўпадабаньня. А гэткія прадметы ўпадабаньня могуць быць вельмі розныя.

Польскі пісьменьнік Б. Прус у сваёй навэлі «Навернены» малюе багача-скнэру, які аднойчы пабачыў у сьне страшны суд над сабою і тое страшэннае мейсца ў пекле, якое яго чакала. З жахам ён прачнуўся і ўрачыста абяцаў паправіць сваё жыцьцё. Аднак направа трывала вельмі нядоўга, бо прывязаньне да грошаў і скнэрства хутка зноў узялі верх. Па нейкім часе ён зноў быў такім-жа ліхадзеям, як і перш.

Калі свабодная воля чалавека трапіць у няволю, дык тады запраўды нельга нават і гаварыць аб яе свабодзе. Асабліва небясьпечнымі для свабоднае волі ёсьць розныя прыстрасьці і нізкія гоны, якія на толькі палоняць волю чалавека, што часта даводзяць яго да поўнага ўпадку. Тут вось і ёсьць найстрашнейшы корань недаверства і бязбожнасьці. Таму найгалаўнейшаю ўмоваю веры зьяўляецца запраўды свабодная воля. Перш чым нехта паверыць, мусіць мець тую добрую волю: прыняць пазнаную праўду. Калі хто гэткае волі ня мае, даказваць яму рэлігійныя праўды, будзе страчаным часам. Каб верыць, трэба заўсёды мець нейкія доказы, але перш чым успрыняць доказы, трэба мець добрую і запраўды свабодную волю.

**а. Лазар.**

# Найгоршае зло

Ад усякага зла, ад усякае бачнае шкоды, чалавек стараецца ратаваць сябе ўсялякімі спосабамі, якія толькі яму даступныя. Нажаль часта забываецца, або проста недабачвае найгоршага зла, якое можа сабе спрычыніць. Гэтым злом ёсьць **грэх**. Няма на сьвеце горшага зла для чалавека як грэх, бо праз грэх чалавек траціць найбольшы свой скарб: вечнае шчасьце-Неба. З гэтаю ўтратаю нічога ня можа зраўняцца. Усе дачасныя няшчасьці: хваробы, калецтвы, зьняслаўленьні, бяда, боль, цярпеньне, гора, а нават і самая сьмерць — нічога ў параўнаньні з утратаю Неба. І так усё што можам мець тут на зямлі, утрацім з хвілінаю сьмерці, а кожны той, хто нарадзіўся, памерці мусіць: «Назначана чалавеку раз памерці, а пасьля суд» (Жыд. 9, 27)

Насамперш некалькі слоў паясненьня.

Грэх — гэта сьведамае і дабравольнае пераступленьне Божых прыказаньняў, або занядбаньне загаданых учынкаў. У залежнасьці ад таго, ці ў малых, ці ў вялікіх рэчах пераступаем Божыя прыказаньні, разрозьніваем грахі цяжкія, або інакш іх называем сьмяротныя і грахі лёгкія, або даравальныя. Кожны грэх ёсьць бесканечнаю абразаю Бога; гэта быццам бунт супроць Яго сьвятое волі. У гэтым ляжыць бесканечная злоба граху. Бо хто такі чалавек? — Істота, якая існуе сёньня з волі Бога, а заўтра, яе можа ня быць. А хто такі Бог? — Вечны і ўсемагутны Валадар і стварца сусьвету. Каб зразумець цяжар і бесканечную злобу граху, варта толькі прыпомніць, што дзеля таго, каб перапрасіць Бо-

га за людзкія грахі, мусіў учалавечыцца сам Хрыстос; разам з целам Ён мусіў прыняць на Сябе ўвесь цяжар людзкіх грахоў і за іх перацярпець страшэнна паніжаючую і найбольш ганебную сьмерць на крыжы ад сваіх-жа сатварэньняў — людзей. Бог учалавечаны быў залічаны да злачынцаў і памёр у іх таварыстве, маючы праваруч і леваруч крамольнікаў. Горшага паніжэньня агулам нельга падумаць, а гэта ўсё дзеля людзкіх грахоў.

Яшчэ было-б паўбяды, каб чалавек праз грэх толькі траціў Неба. Але Бог не аднойчы абвяшчаў, што за грэх чакае страшная кара — Пекла. Якая гэта кара хоць у дробнай меры яе мог адчуць той, хто меў няшчасьце запазнацца з тымі «кошкамі, што скрабуць за сэрца», калі сумленьне загаворыць. Толькі трэба дадаць да гэтага, што пякельная мука ёсьць беспараўнаньня мацнейшая і трывае вечна. Гэтае слова «вечна» так ужо нам збудзяньнела, што часта не адчуваем яго запраўднага сэнсу. Каб лягчэй льга было ўявіць вечнасьць, дык для прыкладу падумайма, што недзе ёсьць нейкая няўміручая птушка, якая можа пералятаць з нашае зямлі на іншую зорку раз на кожныя сто гадоў і забіраць з сабою па дрыбінцы зямлі ў дзюбіку і зноў вяртацца назад. Робячы гэткія падарожжы, яна змагла-б памаленьку перанесьці ўсю нашу зямлю на іншую зорку. Колькі часу гэта трывала-б падумай толькі! Колькі мільярдаў разоў яна мусіла-б вяртацца!? Але гэта ня была-б вечнасьць, гэта быў-бы толькі дробны пачатак вечнасьці.

Грэх мае яшчэ адну злобу, якую нельга інакш назваць, як чорнаю — гэта подлае ашуканства. Найчасьцей чалавек грашыць з думкаю, быццам робіць для сябе добра. Чалавек крадзе, грабіць, забівае, абманвае, робіць распусту, п'янствуе, зьнеслаўляе, крыўдзіць іншых — стараючыся гэтым прыспорыць сабе дабрабыт, а тымчасам губіць сябе навекі. Грэх гэта такі вораг, што вельмі часта падыходзіць да нас, як патайны сабака, няўпрыцям; адкрыта ён не нападае на чалавека. Да таго ён падыходзіць не адзін, а зразу з некалькі бакоў адначасна, або пачарзе.

Грэх так глыбока раніць душу, што праз гэтыя раны адразу выцякае Божая Ласка і дзеля гэтага пачынае высыхаць духовае жыцьцё, чалавек пачынае духова раскладацца. Адгэтуль і зьяўляюцца так званыя раскладовыя тыпы.

Калі грэх паўтараецца часьцей, дык грэшнік быццам камянее ў гэтым граху, прызвычайваецца да яго. Голас сумленьня, які дакараў грэшніка пасьля першых упадкаў, з часам слабне, а потым і зусім заціхае. Дзеля гэтага сьв. Царква радзіць, каб кожны, каму здарыцца няшчасьце зграшыць, пастараўся чымхутчэй пакаяцца, выспаведацца і адпакутаваць свой грэх. Падобна, як да морфія, курэньня, п'янства, — таксама можна прывыкнуць да распусты, злачынства і да іншых грахоў. Прывычка становіцца другою натураю; воля слабее і ня мае сілы перамагчы дрэннае прывычкі. Тады толькі асаблівая Божая ласка можа прывясьці грэшніка да папраўы.

Налаговыя грэшнікі самі сябе пераконваюць, што яны ня могуць жыць без граху, падобна як жабракі, прывыкшы да жэбраў, ня могуць падумаць іншага жыцьця, акрамя жабраваньня. Др. Тамаш Этыюс апавядае, што ў Аўгсбургу быў раз зьявіўся дабрадзей, які хацеў на свой кошт вылячыць тамтэйшых жабракоў. Калі-ж жабракі даведаліся аб гэтым намеры, дык за выняткам двох, усе паўцякалі ў іншыя гарады, каб толькі не лячыцца, бо вылячыўшыся, мусілі-б чэсна працаваць, а гэта ім не падабалася.

Каму даводзілася чытаць апавяданьне Зьмітрука Бядулі «Ашчасьлівіла», той напэўна мусіў адчуць аж шорах на целе, калі змог жыва ўявіць той абраз, як родная маці-жабрачка выколвае вочы голкаю сваёй нованароджанай здаровай дачцы, каб гэтым даць ёй магчымасьць пражыцьця. І пад горкі плач нованароджанае жабрачка паўтарала: «Ашчасьлівіла я цябе, мая ты дачушка, ашчасьлівіла», асьляпіўшы яе навекі. Так «ашчасліўлівае» сябе кожны закамянелы грэшнік. Нажаль сучасная цывілізацыя мае аж за шмат такіх «голак», якімі «ашчасьліўлівае» грамадзтва. Парнаграфічныя кніжкі і часапісы, бессаромныя афішы і малявідлы, дамы распусты, бессаромныя і злачынныя кінафільмы, «вясёлыя» таварыствы — памагаюць ня горш ад тае жабрачкі-маці «ашчасьліўліваць» дзяцей сучаснага веку.

Адзіным ратункам ад вечнае загубы, якую нясе з сабою грэх, ёсьць неадкладная пакута, каб не давялося потым карацца вечна. Але можа некаму яшчэ замала вышэйпаданых матываў да таго, каб выракацца граху, дык варта прыпомніць, і зьвярнуць увагу на тое, што за некаторыя грахі кара пачынаецца ўжо тут на зямлі.

П'янства абяздольвае ня толькі самога п'яніцу, але і ўсю яго сям'ю. Галеча, бяда, нястача, сваркі калатня — ня выводзяцца з хаты п'яніцы. Уканцы да іх нямінуча далучаюцца розныя хваробы ды ўсякія няшчасныя выпадкі. Не дарма кажуць: «Чарка гарэлкі — мора сьлёз».

Распуста ў канчатковым выніку вядзе да зьвырадненьня і захвораваньня на розныя вэнэрычныя хваробы, як пранцы і ім падобныя, якія ў бальшыні выпадкаў поўнасьцю вылечыць немагчыма. Гідкія гэта хваробы, чалавек стыдаецца да іх прызнацца, стыдаецца людзей і сам сабе стае агідным. Тымбольш ён гідкі Богу ў стане граху.

Абжорства і гультайства даводзяць чалавека да ахляласьці, а ў далейшым нават да вырадненьня. Шмат якіх старых магнацкіх родаў павымірала ў выніку нейкіх «таёмных» прычынаў, між якімі найчасьцей былі гэтыя грахі.

Астрогі і больніцы так-жа наглядна сьведчаць, што грахі да дабра не вядуць нават з чыста зямных меркаваньняў.

Вялікая і страшная адказнасьць за грахі, але добры Бог, які ня хоча сьмерці грэшнікаў, «але каб навярнуўся няправедны з свайго бязбожнага шляху і каб жыў» (Езэк. 33, 11), дае шмат перасьцярогаў і шмат дзейнікаў, якія могуць выратаваць кожнага ад вечнае загубы. Дзеля гэтага ўстаноўлена сьв. Царква, сьв. Тайны; дзеля гэтага існуе сьвятарства, якому Богам дана ўлада разграшаць ад усіх грахоў, а голас іх чуваць пры шмат якіх нагодах; на гэта пабудаваны сьвятыні, а іх крыжы на вежах можна пабачыць усюды і адусюль, быццам паказвачы кожнаму неба, куды павінны быць скіраваны ўсе нашы думкі. Із званіцаў чуваць званы, што клічуць да супольнае малітвы, да хрысьціянскага згуртаваньня.—А па-над усё ў душы кожнага чалавека званчэй за ўсякі звон, мацней за кліч усіх сьвятароў, гаворыць голас сумленьня, якое за дабро хваліць, а за благое «грызе сэрца». Ня дай Божа аглухнуць на голас сумленьня!

Найлепшым і адзіным лекам на ўсё зло, якое нясе з сабою грэх, ёсьць шчырая і неадкладная пакута; праз гэта чалавек не дапускае сябе да закамянеласьці ў грахох і стае заўсёды гатовым бясстрашна і непасаромлена стаць перад аблічам Усявышняга.

Супроць Архія, караля Тэбаў, быў зроблены згавор. Змоўнікі ўжо праніклі ў горад і пачалі падрыхтоўку выкананьня свайго пляну. Прыпадкам аб гэтым даведаўся адзін прыяцель Архія і зараз-жа праз свайго слугу выслаў ліст да караля з просьбаю прачытаць гэты ліст неадкладна, бо справа вельмі важная. Кароль якраз баляваў, дык узяўшы гэты ліст са сьмехам улажыў яго ў кішаню, прыгаворваючы: «Да заўтра важныя справы». Ноччу ён быў замардаваны.

Калі мы сабе ясна ўсьвядомім, што грэх гэта самы найгоршы і зацяты вораг чалавека, дык ня пойдзем сьледам за Архіям, але тым, які нам паказаў Хрыстос, каб не загінуць на векі.

**Сьвятар Л.**

# Вялікія астраномы аб Богу

Ад часу, як навука заняла самае пачэснае мейсца ў культурным жыцьці чалавека, вельмі часта стаецца модным аглядацца на вучоных людзей, стараючыся ім прыпадобніцца. Дзеля гэтага бязбожніцкая прапаганда вельмі часта выкарыстоўвала аўтарытэт вучоных для свае прапаганды, каб гэткім спосабам здабыць сабе больш прыхільнікаў. Яшчэ і сёньня ў некаторых кругох можна пачуць цьверджаньне, што навука пярэчыць існаваньню Бога і адначасна не бракуе наіўных, якія прагалошваюць сябе бязбожнікамі, думаючы, што тым самым яны ўжо робяцца вучонымі і выступаюць нават супроць запраўдных вучоных. У 1938 г. нейкісьці невук Борын, што, як сам прызнаецца, данядаўна быў у цемры анальфабэтызму пісаў у «Антирелигиознике» між іншым наступнае: «Добра сабе прыпамінаем, якую вялікую шкоду нясе рэлігія народу. А цяпер я чую, што нават між прафэсароў і прафэсарскіх жонак ёсьць веруючыя. Належыць заняцца імі, адчыніць ім вочы.. Так-жа і між студэнтамі ёсьць чудакі, якія хаваюць іконы сваіх бабкаў і цётак; гэта-ж сьмеху варта і сорам для нас».

Каб пабачыць, хто мае сароміцца, веруючыя ці недаверкі, прыгляньмася да тае навукі, на якую бязбожнікі найбольш паклікаюцца ў сваёй прапагандзе. Для нас гэта тымбольш цікава, што нават такія вялікія і гэніяльныя людзі, як францускі матэматык Кошы, гаворачы аб сваёй веры, адначасна пералічваў вялікіх вучоных, якія так-жа, як ён, былі веруючымі.

**Капэрнік** Мікалай (1473-1543) аснавапаложнік сучаснае сонечнае сыстэмы. Ён быў каталіцкім сьвятаром і канонікам, свой астранамічны твор прысьвяціў папе Паўлу III. У прадмове да ўспомненага твору, пісаў: «Калі ёсьць веда, якая мае здольнасьць ушляхотніць душу чалавека і ўзьняць яе па-над земскі бруд, дык гэткаю ёсьць астраномія... бо як можна сузіраць чудовы парадак, якім наш Бог кіруе сусьветам, не пачуваючыся да ўпарадкаванага жыцьця, да набыцьця цнотаў, да прызнаньня напярод і ўва ўсіх рэчах Створцы, як жарала ўсяго дабра».

**Галілей** Галілео (1571-1630) абаронца капэрнікавага сыстэму. Ён у сваіх творах часта і з націскам заяўляў, што ён прававерны каталік. Некалькі сваіх твораў прысьвяціў папе Урбану VIII. Калі-ж быў увайшоў у супярэчнасьць з Інквізыцыяю, дык ў імя свае глыбокае веры ў Бога паслухмяна падпарадкаваўся яе вымаганьням. Уся яго сям'я была прасякнута глыбокім рэлігійным духам; адна дачка ўступіла ў манастыр.

**Кэплер** Іван (1571-1630). Адзін з найбольшых астраномаў, ён сваімі гэніяльнымі абрахункамі выкрыў законы руху нябесных целаў і паправіў слабыя мейсцы капэрнікавага сыстэму. Гэты вучоны ўлажыў шмат малітваў і гімнаў на чэсьць Бога. За свае адкрыцьці ён не забываўся падзякаваць Богу «за тую ласку», што яму «грэшнаму зямному чарвяку дазволіў зрабіць такія дзіўныя адкрыцьці». На іншым месцы так гаворыць: «Як шчасьлівыя тыя, каму дадзена

праз студыі ўзьняцца да неба!.. Там яны бачаць перадусім твор Бога, сузіраньне якога іх напаўняе радасьцю і шчасьцем!... Я дзякую Табе, Госпадзе, што Ты мяне абдзяліў такою глыбокаю радасьцю студыяваць Твой твор і сузіраць працу Тваіх рук... О, душа мая, ты не павінна ніколі спыніцца пяяць гымн на славу Вечнаму, аж пакуль ты будзеш жыць!»

**Боссю** Шарль (1730-1814) выдатны францускі астраном, якога астранамічныя студыі так узмоцнілі ў пабожнасьці, што ўступіў у манастыр.

**Гэршэль** Віліям (1738-1822) выдатны ангельскі астраном, ён першы сканструаваў вялікі тэлескоп, адкрыў Уран і яго два сатэліты, апісаў 2.500 туманнасьцяў, выкрыў інфрачырвоныя праменьні і даканаў шмат іншых адкрыцьцяў. Аб яго глыбокай веры найлепш сьведчыць факт, што ўсё жыцьцё быў практыкуючым каталікам.

**Ляпляс** Пятро-Сымон (1749-1827) выдатны францускі матэматык і астраном, што ўславіўся сваёю касмагэнічнаю тэорыяю, якую часта выкарыстоўваюць у бязбожнай прапагандзе. Аднак сам Ляплас быў веруючым. Ён пісаў: «Наш Бог валадарыць над часам і вечнасьцю і ў Яго няма ніякіх зьменаў, і чым глыбей мы дасьледжваем Яго, тым больш уцьвярджаемся ў гэтым». Калі Ляплас чуўся блізкім сьмерці, казаў паклікаць сьвятара і пастараўся ўпарадкаваць «свае рахункі з зямлёю і Небам».

**Ольбэрс** Вільгельм (1758-1840) выдатны лекар і астраном, выкрыў шмат камэтаў. У яго лістох часта спатыкаюцца сказы, як: «Тысячу разоў дзякуй Богу, што ня сталася горш», «Хай Бог яму ўзнагародзіць».

**Бэссэль** Фрыдрых В. (1784-1846) першаклясны нямецкі астраном, прыяцель Ольбэрса і так-жа, як той веруючы. У часе хваробы сябры пісаў яму: «...каб даў Бог нам некалькі гадоў астацца разам», а далей у тым-жа духу.

**Араго** Францішак-Іван (1786-1853) слаўны францускі астраном. Аб яго веры найлепш сьведчыць прамова ў Францускай Калегіі, дзе ён сказаў: «У наступным тыдні і тут у Парыжу будзе бачна сонечная экліптыка. Сонца ўвойдзе ў кан'юнкцыю з Месяцам і наша Зямля захопіць выпраменяваньні гэтага валадарнага сьветача. Значыць у ўстаноўлены дзень, у азначаны час мінуту і сэкунду тры вялічэзныя нябесныя целы паслухаюцца — не нашага прадсказаньня, але Божага загаду».

**Сантіні** Гаспар (1781-1877) астраном у Падуанскай абсэрваторыі. Яго глыбокая і шчырая вера давала нагоду некаторым гаварыць, што ён сьвятар.

**Гэршэль** Джон-Фрыдрых (1792-1871) сын Віліяма, выдатны астраном, матэматык і хэмік. Ён быў пабожным практыкуючым каталікам і рашуча асуджаў атэізм. Гаворачы аб навуцы і філязофіі, між іншым заявіў: «Няпраўда, быццам навука, тым, хто яе культывуе, дае перабольшаную думку аб сабе і даводзіць да сумніваў у бессьмяротнасьць душы і да запярэчаньня аб'яўленьня. Яна, наадварот, можа выклікаць супрацiўнае зьявішча... яна ўстанаўляе існаваньне і прыметы Боскасьці на такой аснове, што сумніў стаецца абсурдам, а атэізм сьмешнасьцю».

**Мэдлер** Іван-Гэнрых (1794-1874) выдатны дасьледнік месяца, быў астраномам у Дорпаце. «Навука і яе запраўдныя прадстаўнікі і дасьледнікі не заслугоўваюць закідаў і падазрэньня, што адносна іх зьбіраецца ў пэўным асяродзьдзі, быццам яна іх адчужвае ад Боскасьці, а то і зусім робіць бязбожнікамі — абвінавачваньні, што ня маюць зусім ніякага абаснаваньня. Якраз мы спадзяёмся паказаць, што астраномія дзейнічае зусім наадварот, якраз яна спаміж іншых ведаў паклікана сьцерагчы і ўмацоўваць тыя пераканаyньні, што правам уважаюцца найбольшым дабром людзкага роду...»

**Лямонт** Іван (1805-1880) дырэктар абсэрваторыі ў Мюнхэне. Быў шчырым каталікам. Перад сьмерцю прыняў Сьвятыя Тайны і, падаючы слабеючую руку свайму сябру, казаў: «Цяпер я ўжо спакойны».

**Лявэрые** Урбан-Іван (1811-1877) выдатны францускі астраном і матэматык, яго імя асабліва сталася слаўным пасьля таго, як адкрыў у 1846 г. плянэту Нэптун. Рэлігійнасьць гэтага вучонага была агульнаведамая, бо ён часта паўтараў: «Я ня толькі каталік, але і вернік». Гаворачы аб укладаньні сваіх табліцаў плянэтаў, ён заявіў: «Падчас гэтага прадпрыемства, якое займала мяне 35 гадоў былі неабходнымі вытрываласьць і апора, якія прыходзілі з позірку на адно з найбольшых дзел сатварэньня і думкі, што яе ўзмацнялі непрамінаючыя праўды спірытуальнае філязофіі».

**Фэйе** Хэрвэ-Аўгуст-Этіэн (1814-1902) дзейны францускі астраном. У сваім творы «Аб пачатку сьвету» між іншым піша: «Назіраючы сьвет, мы адчуваем, як нашы думкі ўздыймаюцца да паняцьця якогась сьвету, што ёсьць вышэй чым драбніцы, што нас акружаюць... Такім чынам ёсьць яшчэ штосьці іншае, як тыя рэчы, што тут доле, яшчэ нешта іншае, як наша цела і іншае, як тыя бліскучыя зоры, ёсьць дух, ёсьць думкі. І таму, што наш розум ня сам зрабіўся, дык мусіць быць у сьвеце вышэйшая Інтэлігэнцыя, ад Якое паходзіць наша. Дзеля таго чым дасканалейшым будзе ўяўленьне тае Інтэлігэнцыі, тым бліжэй вы даходзіце да праўды». А ўканцы выснавак такі: «Бог усемагутны Айцец, Створца Неба і Зямлі».

**Ньюкомб** Сымон (1835-1909) выдатны амэ-

рыканскі астраном. У сваім творы «Зоры» ён піша: «Боскі дух правіць будоваю аграмаднага сусьвету, усімі рознаякімі праявамі сілаў прыроды, усімі стыхіямі...»

**Шіяпарэлі** Іван (1835-1910) вельмі плодны італійскі астраном. У сваёй папулярнай астраноміі піша: «Хто-ж сёньня яшчэ гаворыць пра антаганізм між вераю і навукаю? Калі быў мамэнт, што гэтак магло здавацца, дык гэта былі дрэнныя мроі, што цяпер зьнiклі назаўсёды. І як ня можа быць спрыятліваю для рэлігіі такая навука, як астраномія, якое студыі можна назваць заўсёднымі пошукамі вышэйшае мудрасьці, якая ўпраўляе сьветам, якое кожнае адкрыцьцё зьяўляецца гымнам падзіву, і адарацыі, што крынічаць з кожнае душы, разумеючае веліч і красу?»

**Фляммарыён** Каміль (1842-1925) францускі астраном, які выкрыў шмат новых зораў. У адным з сваіх твораў піша: «Я з любоўю схіляюся перад Табою, але я вельмі сьціплы, каб падумаць, што Ты пачуеш мяне. Але Ты ўсё-ж чуеш мяне. Стварыцель? Ты, што даў рух вялізным сонцам і прыгожасьць палявой кветцы, слухай і мяне. Голас сусьветнага акіяну ня зможа заглушыць для Цябе майго кволага голасу і мая думка даходзіць да Цябе ў гэтай агульнай малітве».

**Лігондэ** Марі-Рауль (1847-1917) ведамы францускі астраном. У сваім лісьце да а. Эйміе ў справе навукі і веры, пісаў: «што да гэтага пытаньня, дык вы можаце напісаць аба мне тое, што я думаю, каб адчыніць вочы тым, якія яшчэ думаюць, што вера зьяўляецца перашкодаю ў поступе навукі».

**Кляйн** Фэлікс (1847-1925) выдатны нямецкі астраном і матэматык. У сваіх разважаньнях дайшоў да высноўку, што: «разьвіцьцё сьвету.. ня можа быць вынікам выключна сьлепа-дзеючых мэханічных сілаў. Наадварот, усё гэта сьведчыць, аб узьдзеяньні Вышэйшага Розуму», а далей сьцьвярджае, што людзкі розум ёсьць у стане разважаць гэты Вышэйшы розум і «ўзьняцца да разуменьня нябачнага Будаўніка плянэтнае сыстэмы».

**Каляндро** Октав (1852-1904) годны ўвагі абсэрватар і аналітычны астраном. У сваім тэстамэнце пісаў: «Я малю добрага Ісуса і Найсьвяцейшую Дзеву, каб зрабілі мяне годным уваскрасеньня да вечнага жыцьця разам з праведнымі».

**Дюгэм** Паўло-Моріс (1861-1916) ведамы францускі астраном. На запытаньне аб веры, казаў: «Я веру ўсёю маёю душою ў праўды, якія нам Бог абʼявіў і вучыць нас праз сваю сьв. Царкву. Я ніколі ня быў няшчырым ў маёй веры, і Той, каго я прызнаю, захоўвае мяне, і спадзяюся ў глыбіні сэрца, за гэта ніколі не чырванець».

**Дэсляндр** Г. сучасны францускі астраном, дырэктар абсэрваторыі ў Мэдон. Ён зрабіў шмат адкрыцьцяў у сьвеце плянэт. Калі сьвятар зь яго парахвіі яму гратуляваў, дык вучоны адказаў: «Ойча, неба і Зямля галосяць хвалу, але не маю, а Бога свайго Стварыцеля».

Акрамя вышэй пералічаных было яшчэ цэлыя дзесяткі ня менш слаўных вучоных астраномаў, якія былі веруючымі людзьмі і часта выступалі ў абароне свае веры. Каб занадта не расьцягаць гэтага артыкулу, пералічым толькі іх імёны. Вось некаторыя з іх:

Tycho de Brahe (1546-1601), Cassini Jean-Dominique (1625-1712), Delisle Joseph-Nicolas (1688-1768), Bradley James (1692-1762), Cassini de Thury Cesar (1714-1784), Biot Jean (1774-1862), Littrow Joseph-Jean (1781-1840), Bessel Fridrich-Wilhelm (1784-1846), Binet Jacques-Philippe (1787-1865), Encke Johan (1791-1865), Gautier Alfred (1793-1881), Kreil Karl (1798-1862), Wolf Rudolf (1810-1893), Briot Charles (1817-1882), Adams John-Caugh (1819-1892), Mouchez Barthelemy (1821-1892), Respighi Laurent (1824-1889), Jonssens Pierre-Julien (1824-1907), Huggiens William (1824-1916), Wolf Charles-Joseph (1827-1918), Bouquet de la Grye Jean-Jacques (1827-1909), Cornu Marie-Alfred (1841-1902), Lowelle Parcival (1855-1916).

Усе вышэйпералічаныя асобы, за выняткам двох чалавек, зьяўляюцца сьвецкімі асобамі, але для справядлівасьці і для поўнаты абгаворванае тэмы трэба ведаць, што на працягу прошлага і сучаснага стагодзьдзя, выйшлі цэлыя дзесяткі выдатных астраномаў спаміж духавенства. Самых толькі езуітаў астраномаў сусьветнае славы налічваецца каля 40 чалавек, айцы піярысты такжа могуць пахваліцца некалькімі астраномамі сусьветнае славы.

Вышэйназваных вучоных да веры ў Бога прывяла іх глыбокая і аснаўная навука.

Дык ці-ж можа быць сорам веруючаму чалавеку, маючы ў радох сваіх аднадумцаў такіх вялікіх людзей? А гэта-ж толькі дробная частка тых тысячаў і тысячаў вучоных з розных галінаў людзкое веды, якія асягнуўшы высокія становішчы між людзей пакорна схілялі свае галовы перад Богам і падобна, як ангельскі філёзаф Бэкон паўтаралі «Ніхто не адмаўляе быцьця Божага, акрамя тых, каму карысна, каб Бога ня было... Толькі павярхоўная веда прыроды можа адвесьці ад Бога, а больш глыбокая і грунтоўная наадварот — заўсёды прыводзіць нас да Бога.

**Сабраў а. Л. Гарошко.**

# Сацыялягічныя зацемкі

Жывём у часе сацыяльна-палітычнай перабудовы, калі вырашаецца доля дзяржаваў, народаў, адзінак на цэлыя вякі, а можа і на тысячагодзьдзі. Выбар сьветапагляду ў гэткім часе зьяўляецца вельмі важнаю справаю. Наступныя зацемкі хай памогуць з'арыентавацца ў гэтым выбары.

Аснаўным пытаньнем у галіне грамадзка-палітычнага ладу ёсьць пытаньне суадносінаў адзінкі да грамадзтва і грамадзтва да адзінкі. Спробы вырашэньня гэтага пытаньня йшлі ў двох кірунках. Адзін зь іх імкнуўся да неабмежаванай свабоды адзінкі, а другі да ўсеўладнага калектыву: дзяржаўнага, народнага, партыйнага. Грамадзтва ўасаблялася часта алігархіяй, або манархіяй, ці дыктатарам, звычайна акружаным групай адданых сабе дзеячоў.

У стараветным сьвеце пераважаў лад, паводле якога звычайна калектыў панаваў над адзінкай, хоць ужо ў старым Рыме пачынае праяўляцца прызнаньне індывідуальнасьці адзінкі, а гэта дзякуючы прынятаму ў аснову дзяржаўнасьці прынцыпу праваўладзтва.

У сярэднявеччы дзяржаўная ўсемагутнасьць паволі зачынае абмяжоўвацца. Бо сярэднявечча гэта эпоха змаганьня хрысьціянскага цэнтру з дзяржаўным унівэрсалістычным абсалютызмам, трымаючым у залежнасьці меншыя дзяржавы, баронячыя сваю апрычонасьць. Барацьба адбываецца між васаламі і сувэрэнамі, між манархамі і гарадамі. У гэтых змаганьнях родзіцца і ўзмацняецца значэньне і роля грамадзкага элемэнту, бо ў змаганьні людзі змушаныя лучыцца і змагацца грамадою, стараючыся перацягнуць на свой бок чым больш прыхільнікаў. Такім чынам грамадзтва здабыло пэўныя прывілеі і магчымасьці мець голас у публічных справах.

Аднак ня ўсе грамадзтвы здолелі ўтрымаць, пашырыць ды загварантаваць правы адзінкі, здабываючы што раз больш ўплыў у дзяржаўных справах. У шмат якіх краёх родзіцца рэакцыя і вяртаецца манархія.

Філязофія другое палавіны васемнаццатага стагодзьдзя ды зьвязаная ідэйна зь ёю францускaя рэвалюцыя, дае пачатак пары расквіту індывідуалізму, што трывала праз цэлае дзевятнаццатае стагодзьдзе. У палітычнай галіневаладарыць прынцып: «Улада паходзіць ад Бога», тэарэтычна ён апіраецца на так званай грамадзкай умове. У гаспадарчай галіне ён праяўляецца ў форме лібэралізму, якога асноваю ёсьць неабмежаваная свабодная эканамічная самадзейнасьць адзінкі. Гэта разбуджвае жадобу здабываньня багацьця ўсялякімі спосабамі.

Які вынік гэтых імкненьняў? Чалавек зматэрыялізаваўся, грамадзкія асновы і маральнасьць пахіснуліся. Зноў будзіцца рэакцыя ў бок калектывізму. К. Маркс падымае ведамыя ўсім клічы гістарычнага матэрыялізму і змаганьня клясаў. Дэмагагічны кліч Прудона: — «Собскасьць — гэта крадзеж!» ён абвівае ў кудзельку філёзафічна-сафістычнай формы. Прыхільнікі і пасьлядоўнікі Маркса раздзьмухваюць гэта і даводзяць да сыстэмы камунізму ўтапляючы адзінку і асабістасьць чалавека ў нетрах калектывізму.

Ультранацыяналістычны кірунак падыходзіць да гэтага пытаньня з іншага боку — ён занурае да самага дна і топіць чалавека ў нацыі. Ён падымае кліч змаганьня за гэгэмонію над сьветам, кліч вышэйшасьці «панскіх» народаў над народамі «нявольніцкімі».

Абодва гэтыя кірункі нялюдзкія, людаедзкія. Яны нясуць культ сьляпога, бяздушнага і забойчага, прыгоннага шаблёну. Яны маняцца закаваць у няволю ўвесь сьвет.

Адзін з гэтых кірункаў пасьля гвалтоўнага развою, грымнуў ужо і рассыпаўся ў дрызгі, другі яшчэ распасьцірае над сьветам свае захопніцкія драконскія крыльлі.

Праз усю гісторыю цягнецца гэтае змаганьне двох напрамкаў: індывідуалістычнага і калектывістычнага. Людзтво хістаецца ад аднэй да другой скрайнасьці — і заўсёды трагічна.

Дзе разьвязка гэтай гістарычнай праблемы? — У залатой сярэдзіне. Тую залатую сярэдзіну і шчасьлівую раўнавагу можа падтрымаць толькі хрысьціянізм, які аб'яўляе чалавека такім, якім ён ёсьць у сапраўднасьці. З таго правільнага разуменьня чалавека выплывае трапнае унівэрзалістычнае разьвязаньне суадносін грамадзтва да адзінкі і адзінкі да грамадзтва.

## ЧАЛАВЕК.

Філязофія васемнаццатага стагодзьдзя паставіла дзьве тэзы: першая, што чалавек ёсьць з натуры добры і ўсе ягоныя чыны добрыя, таму ня можна яго нічым зьвязваць, абмяжоўваць, адгэтуль кліч: «Лесэ фэр, лесэ пасэ»; другая, што чалавек з натуры ёсьць грамадзкі, але толькі дзеля карысьці вытварыў грамадзкасьць паводле грамадзкае ўмовы.

Філязофія дзевятнаццатага стагодзьдзя паставіла трэцюю тэзу: чалавек ёсьць толькі целам, найвышэйшым відам жывёлы — «гомо сапіенс», а ягонай мэтай ёсьць поўнае заспакаеньне фізычных і цялесных патрэбаў. Чалавек у паасобнасьці ёсьць нічым, а кляса, народ ёсьць усім.

Усе гэтыя тэзы аказаліся памылковымі, бо апіраліся на фальшывых асновах. Каб будаваць

трывалыя формы людзкога сужыцьця, перадусім трэба ведаць, што такое чалавек.

Чалавек ня ёсьць звычайнай жывёлай, быдлём, бо апрача сьмяротнага цела зь ягонымі дачаснымі патрэбамі, мае несьмяротную душу з яе аспірацыямі да вечнага.

Чалавек ня ёсьць ані выключна добры, ані выключна благі, толькі мае нахілы да дабра і да зла. Заспакаеньне цялесных патрэбаў яму служыць для падтрыманьня людзкога роду, толькі непамернае заспакойваньне тэных патрэбаў ёсьць супроць натуры і становіцца крыніцай зла. Чалавек нажаль мае нахіл да такіх непамернасьцяў, але тут паважную ролю мае сумленьне, якое паўстрымоўвае чалавека ад благога ды накіроўвае да дабра. Чалавек ня ёсьць толькі адзінка — экзэмпляр віду — але адначасна ён ёсьць асобай, істотай самасьведамай і самавольнай, могучай устрымаць сябе ад зла.

Гэта азначэньне з нэгатыўнага боку, а з пазытыўнага: чалавек мае вельмі сільны нахіл да дабра, праўды, прыгаства — да Бога. «Чалавек жыве мастацтвам і розумам», казаў сьв. Тамаш. Гэта вызваляе чалавека з мэханізму натуры і замяняе яго ў валадара прыроды, што запрагае сабе на службу ўсе сілы прыроды. Людзкі розум адкрывае правы кіруючыя прыродай, сьветам, і адначасна гэній чалавека творыць мастацкія цуды.

Натуральная ўдача чалавека імкнецца да дасканаласьці, найвышэйшым пунктам якое ёсьць творства. Маторам гэтых імкненьняў ёсьць яго душа. Хрысьціянская філязофія называе гэта перавагай духа над матэрыяй.

Чалавек прыходзіць на сьвет у сям'і — найменшай натуральнай каморачцы грамадзтва. Ён прадаўжае жыцьцё сваіх бацькоў і зьяўляецца пэўнай сынтэзай іх свомасьцяў і ўдачы. Ад першых пачаткаў свайго жыцьця карыстае з усіх дасягненьняў людзтва. Праз узгадаваньне і навуку сузьмяшчае ў сабе тыя ўсе дасягненьні, да якіх дайшло людзтво ў сваіх папярэдніх этапах разьвіцьця; далей яго фармуе асяродзьдзе, у якім знайходзіцца, ды жыцьцёвыя обставіны.

Маючы вольную волю і карыстаючы з пазнавальных здольнасьцяў, — чалавек фармуе сваю асабовасьць. Аднак яна не залежыць выключна ад яго індывідуальнасьці ды ўплываў асяродзьдзя. Трэйцім дзейнікам ёсьць надпрыродная ласка, якая памагае яму ўдасканальвацца, паляпшаць людзкія прыродныя слабасьці. Чалавек грамадзкі, што вырас з грамадзтва — павінен прыслужыцца да разьвіцьця гэтага грамадзтва.

## ГРАМАДА.

Тое ўсё аб чым мы дагэтуль гаварылі паказвае на сталае і поўнае ўзаемнае праніканьне асобы-адзінкі з грамадою, да якое яна належыць і якую творыць. Таму сыстэмы абапёртыя выключна на індывідуалізме ці лібэралізме, што прыватныя інтарэсы адзінкі ставіць па-над карысьцямі і мэтамі сваее-ж грамады; як так сама сыстэмы абапёртыя на выключным калектывізьме, зусім паглынаючыя адзінку на карысьць калектыву, клясы, народу — ня згодныя з натураю чалавека. Падзеі на ўсходзе аж надта гэта падцьвярджаюць...

Нармальны лад вымагае таго, каб чалавек як адзінка, карыстаючыся з грамадзкіх дасягненьняў, быў да пэўнае меры падпарадкаваны грамадзе, але для гэтай-жа грамады ён павінен быць найвышэйшай зямной вартасьцю, аднаразовым, непаўтаральным зьявішчам сьвету, сьведамым поўнадастойным судзейнікам творства, а не бяздушным, махінацыйным знадоб'ем, ці гарматным мясам. Як абавязкам адзінкі ёсьць: аддаць свае здольнасьці для дабра грамады, так абавязкам грамады ёсьць стварыць найлепшыя магчымасьці для разьвіцьця чалавека і ягонае асабовасьці.

Грамада бывае: натуральная, сталая, і — функцыянальная, часовая. Да першага роду належаць: сям'я-радня, народ, Царква-Касьцёл. Да другога роду адносяцца тыя, што вынікаюць з суседзтва, супрацы і суадукацыі.

## РАДНЯ

ёсьць першай падставовай завязьзю грамадзтва, якая надае першы напрамак разьвіцьця чалавека. Хрысьціянскі сацыяльны лад вызначае сабе мэту: абясьпечыць магчымасьці росквіту і трываласьці сямейнага жыцьця. Правадаўства, сыстэма грамадзкай апекі, эканамічная палітыка (прапорцыя цэнаў да заработкаў) — гэта спосабы, шчырае выкарыстаньне, якіх можа кожнаму даць магчымасьць заснаваць сваю сям'ю, належна яе ўтрымаць, узгадаваць дзяцей паводля іхніх здольнасьцяў ды покліку.

## НАРОД

гэта ў шырэйшым значэньні сям'я, грамада, якая астаючыся прынцыпова этнічнаю цэласьцю, ёсьць і судзейнікам тварэньня гісторыі, якая ў псыхіцы складаючых яго людзей вытварыла пачуцьцё духовай супольнасьці, салідарнасьці ды адзінасьці ў параўнаньні да іншых людзей, творачых іншы народ. Ідэальнай формай жыцьця і разьвіцьця этнічнага ёсьць собская

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЗЯРЖАВА.

Мэтай такое дзяржавы — загварантаваць сваім грамадзянам такія магчымасьці жыцьця, каб кожны чалавек мог заспакоіць усе патрэбы цела

і душы, ды каб мог зьдзейсьніць свае імкненьні да дасканаласьці. Дзеля таго кіравецтва дзяржавы — урад з адміністрацыяй і парлямант — павінны быць такімі, як гэтага жадае бальшыня грамадзян. Ён павінен быць адбіцьцём здаровых імкненьняў грамадзян. Удзельніцтва ў кіраўніцтве ня ёсьць ганарлівасьцяй, ані панаваньнем, але службай для народу, сутнасьцю якое ёсьць адказнасьць перад грамадзтвам і перад Богам — перад кантроляй. Лад хрысьціянскага гаспадарства ёсьць ладам праваўладзтва, дзе права робіцца граніцай аўтарытэту ўлады й вольнай адзінкі.

Дзеля таго, што дзяржава ёсьць адзінай формай, што можа загварантаваць адзінцы магчымасьці поўнага фізычнага і культурнага разьвіцьця — яна можа вымагаць ад сваіх грамадзян надзвычайных ахвяр і працы, маемасьці, а нават і жыцьця для абароны свайго існаваньня, вольнасьці і незалежнасьці.

**(Заканчэньне ў наст. нумары).**

**Абразкі з жыцьця.**

# Беспаваротная страта

Славуты амэрыканскі прапаведнік а. Тальтідж апавядае аб гэткім здарэньні:

Маладая дзяўчына прызналася сваёй мацеры, што яна адчувае грэх на сваёй душы і што яна ноччу доўга малілася, каб Бог ёй дараваў гэты грэх.

На гэта сказала маці:

— Пакінь маліцца. Я ня веру ў ніякую малітву. Выкінь з галавы ўсе гэтыя рэлігійныя бздуры; лепш я табе куплю вопратку за 500 даляраў і ў наступным тыдні пойдзеш у ёй на баль.

Дачка паслухала мацеры. Апрануўшы дарагую вопратку, яна пайшла на баль і там запраўды зьвярнула на сябе ўвагу. Ад тады яна знайшлася ў найвесялейшым у сьвеце гурце. Замест рэлігійных практык і малітвы яе жыцьцё праходзіла ў шырокім, разгульным і вясёлым асяродзьдзі.

Аднак гэткае жыцьцё трывала вельмі нядоўга, ўсяго некалькі месяцаў, і неспадзявана маладая красуня зьлягла на сьмяротны ложак.

Ведаючы аб безнадзейнасьці свайго палажэньня, яна зьвярнулася да маці:

— Я хачу глянуць на маю вопратку, якая каштавала 500 даляраў.

Маці задаволіла яе просьбу. Дачка доўга ўзіралася на дарагую рэч і нарэшце прамовіла ціхім голасам:

— Мама, за гэтую вопратку я прадала сваю душу, а цяпер ня маю ні аднаго ні другога.

Маці маўчала і ня ведала, што адказаць і чым яе пацешыць. Ёсьць на сьвеце і такія мацяркі!

# Брат спасіцель

**(Запраўдняя надзея).**

## I.

У 1915 г. фронт на Беларусі пасоўваўся на ўсход што раз далей і перад ім сотні тысяч беларускіх сялян, паводле загаду ўладаў, выяжджалі на ўсход. Хведар Сук разам з усімі пакінуў сваю вёску і, забраўшы ўсяго толькі з свае гаспадаркі, колькі можна было наладаваць на адзін воз, забраўшы ўсю сям'ю, паехаў так-жа на ўсход. Яго малодшы брат, Зьмітро, ужо ад некалькі гадоў служыў будачнікам на адным з важнейшых шляхоў у глыбіні Расеі, дык туды і накіраваўся Хведар.

Зьмітро прыняў брата шчыра, запраўды пабрацку, дапамог яму ўладзіцца на працу ў гаспадара недалёка ад свае будкі і так жылі з дня на дзень, чакаючы лепшага заўтра.

Зьмітро і яго жонка ў вольныя часіны наведвалі Хведара, бо самі былі бязьдзетныя, а Хведару дзяцей Бог не пашкадаваў. Браты дзяліліся, чым маглі і суцяшаліся, як умелі. Шчырая брацкая прыязьнь асалоджвала хвіліны суму па роднай старонцы.

## II.

Нешта даўно ані Хведара, ані нікога ня было ў нас, што-б гэта значыла? Гаварыла Зьмітручыха свайму чалавеку, зьбіраючы са стала вячэру.

— У іх-жа цяпер веснавыя работы, мусіць усе занятыя. Паволі гаварыў Зьмітро.

— А гэты-ж малы шаламіла Юрка, бывала што дня тут, а гэта каторы дзень не паказваецца.

— Цяпер ён ужо павышэньне чыну дастаў, настаяшчым пастухом стаўся, дык напэўна набегаўшыся цэлы дзень на пашы, дзесь сьпіць бяз задніх ног.

— У іх там весела, калі ня пойдзеш... Дакончыць сказ Зьмітручысе было надта цяжка,

яе найбольшае няшчасьце — бязьдзетнасьць пры кожнай нагодзе не забывалася балюча кальнуць у сэрца, а часам нават неяк дзіўна сьціснуць горла.

Зьмітро дагадаўся куды завандравала яе думка і, каб перарваць гэту няпрыемную думку, азваўся.

— Ведаеш, я думаю, ці ня лепш было-б даць Хведару трохі грошаў на схову? Калі-б ён іх і скарыстаў, дык таквеля тае бяды. А гэта, ведаеш, ня веру я цяперашняй пошце, а асабліва гэтаму паштавіку. Як апошні раз клаў я на кніжачку ён так паглядзеў на мяне, як капейку падарыў. Ды яшчэ падсьмехваецца: «Нешта ўсё, што раз, то меней прыпісваецца» — кажа. Тваё якое дзела ,думаю, усюды свой нос уткнуць мусіць, што хто робіць.

— Па мне што, аддай хоць і Хведару. Усяроўна ўсюды няпэўна. На наш век хопіць, калі Бог паможа.

Каля вакон пачуліся нейчыя прыцішаныя крокі, а потым стук у дзьверы.

— Хто-б гэта мог быць так позна? Неспакойна гаварыў Зьмірко, пытліва паглядаючы на жонку.

Стук паўтарыўся.

— Хто там?

— Падарожныя, — адказаў злосны голас з панадворку.

Зьмітро адчыніў і тры дзябёлыя постаці сьпешна прасунуліся ў хату. Нечым нядобрым павеяла ад іх. З жахам на сьвятле лямпы Зьмітро пабачыў іхныя замаскаваныя абліччы, а фігуры напаміналі нешта знаёмае.

— Давай грошы! — адазваўся вышэйшы зь іх.

— Ня маю, — адказаў Зьмітро.

— Што, ня маю. Мы ўсё ведаем, не адмаўляйся, давай зараз, а то... — і ў руках іх блrandнулі рэвальвэры.

— Мае грошы на пошце.

— Гавары гэта дзецям. Вот давай па добраму — адазваўся меншы зь іх.

На гутарцы Зьмітро пазнаў паштальёна і голас яго замёр у горле.

Зьмітручыха, убачыўшы накіраваныя на свайго чалавека рэвальвэры, са страху ня ведала, што і гаварыць.

— Што тут зь імі доўга валтузіцца, страляй і ўсё, знойдзем самі, — азваўся зноў нейкі знаёмы голас падобны да голасу суседняга будачніка.

— Хаця-ж вы дайце нам памаліцца перад сьмерцю, — азвалася з плачам Зьмітручыха.

— Хэ, маліцца, — азваўся першы голас, — гэтулькі ласкі вам можам зрабіць. Маеце часу пяць мінут, або маліся, або надумайся і сама аддай грошы.

Зьмітро з жонкою ўпалі на калені перад абразамі і шчырая перадсьмяротная малітва палунала ў неба.

## III.

— Куды ты зьбіраешся нанач? — казала Хведарыха сваёй малодшай дачцы.

— Кветкі панясу цётцы.

— Ці ты маеш лад? Поначы кветкі насіць. Нібыта цётка тваіх кветак ня бачыла? Вось кладзіся спаць, а то заўтра рана з ложка ня спораш.

— Мамачка, я скоранька вярнуся.

— Вось, кладзіся, надумалася ліха ведае што. Вазьмі пастаў нанач у воду ды занясеш заўтра, калі ўжо вельмі заманілася.

У хаце паволі заціхала. Хведар пачаў разьдзявацца і быццам сам да сябе гаварыў.

— Нешта і мне карціць пайсьці да Зьмітра. Даўнавата ўжо ані ён, ані жонка не заглянулі да нас. Сёньня на гвалт трэба было-б пайсьці, а тут часу ўсё няма. Ды сёньня ўжо так натупаўся за цэлы дзень, што і ногі ня служаць.

— Дык яна так нексячы дакляравала прыйсьці к нам.

— Хто яна? братавая? От гавары, яна-б і хацела, але... што тут гаварыць. Ну ўсёроўна трэба будзе заўтра да іх заглянуць.

## IV.

Хведар крыкнуў і прачнуўся.

— Чаго ты крычыш? Што табе прысьнілася?

— Дык гэта я спаў? — уціраючы халодны пот казаў Хведар.

Ну, мусіць нешта нядобрае сталася зь Зьмітрам. Хутчэй запальвай агонь і здымі мне з вышкаў боты, трэба пабегчы паглядзець да іх.

Хведарыха маланкаю запаліла агонь, падала боты і неспакойна глядзела на свайго чалавека. Той вомірг адзеўся і кінуўся да дзьвярэй.

— Ты-ж глядзі ня баўся, бо я ня буду ведаць, што рабіць.

— Добра, добра, — казаў зачыняючы дзьверы Хведар.

З усіх сілаў сьпяшаўся Хведар да зьмітруковае будкі. Навокал усё было ціха і спакойна і гэта крыху яго супакойвала. Набліжаючыся да будкі ён звольніў крок, але, калі прыглянуўся да вакон, сэрца быццам молатам пачало біцца ў грудзях. Не зважаючы на позны час, верхнія неаслоненыя шыбы вакон зьзялі поўным сьветам. Хведар ведаў панадворак каля будкі, як сваю кішаню; ён хутка знайшоў драбіну і прыставіў яе асьцярожна да сьцяны, ды палез глянуць праз верхнія шыбы, што дзеецца ў хаце. Тое, што ён убачыў, было для яго такім жахлівым,

што ён, не памятаючы сябе, скочыў на зямлю. Ад скоку разышоўся ў начной цішы даволі моцны гук. У яго вачох стаялі дзьве постаці на каленях, а над іхнымі галовамі рэвальвэры. Што рабіць? — думаў. Але зараз-жа прамільгнула думка ў галаве, што яго скок напэўна пачуюць у хаце і выйдуць глянуць на няпрошанага гасьця.

— Чым іх сустрэць?

За вуглом былі розныя прылады. Паміж кіркаў і лапатаў ён абмацаў лом, выхапіў яго, сьціснуў аберуч, і быццам тыгр, чакаючы дабычы стаў каля вушака выхадных дзьвярэй.

Не прайшло і хвіліны, як пачуўся ціхі скрып дзьвярэй і нечая галава моўчкі паказалася ў праходзе. З шалёнаю хуткасьцю і сілаю матнуўся лом у Хведаравых руках і цёмная постаць з рашчэпленаю галавою нема асунулася ля яго ног. Хведар ухапіў постаць адцягнуў яе ад дзьвярэй і зноў прытаіўся.

V.

Зьмітро згаварыў пацяры, яшчэ раз шчыра паўтарыў «Отчэ наш» і ціха разьвітаўся з усім, прасіў даравання грахоў. Жонка паўтарала тое самае.

— Яшчэ вам асталося ўсяго дзьве мінуты часу да раздумы, кажыце, дзе грошы. — Прагаварыў глухі голас, і для большага страху, каб зболышыць перадсьмяротныя мукі, забраскаў бясьпечнікам рэвальвэра.

Раптам пачуўся нейкі шорах пад вакном.

— Пайдзі паглядзі, што там такое, азваўся той-жа голас да кумпана, што ўжо ладзіўся майстраваць каля шкапа.

Усе ў хаце з напружаньнем чакалі выясьненьня таго шораху на двары, але чамусьці ўсё было ціха і той пасланец не вяртаўся.

— Чаго ён там так забавіўся? Пайдзі глянь, што ён робіць, — азваўся зноў глухі голас да свайго сябры.

Зноў ціха рыпнулі дзьверы, зноў настала кароткая хвіліна цішы, але раптам з трэскатам адчыніліся дзверы...

— Рукі ўгару! — крычаў не сваім голасам Хведар да напасьніка, што яшчэ стаяў, як крук, з рэвальвэрам у руках над кленчыўшымі; не чакаючы выканьня звайго загаду, з размаху апусьціў лом на галаву напасьніка.

— А братко-ж ты мой, а спасіцель ты наш, цябе Сам Бог паслаў нам у апошняй хвіліне! — шапталі праз сьлёзы выратаваныя, сьціскаючы Хведара ў сваіх абыймах.

— Дык давайце-ж цяпер усе разам Яму падзякуем, казаў расчулены Хведар...

**Анатоль Жменя.**

# Магатма Гандi

Дня 30-га студзеня гэтага году ўвесь сьвет скалыхнула сумная вестка аб трагічнай сьмерці індыйскага духовага правадыра Магатмы Гандi. Зацятае, але амаль бяскрывавае змаганьне за сваю незалежнасьць і канчаткова самую незалежнасьць, якую толькі ў мінулым годзе здабыў індыйскі народ, у вялікай ступені заўдзячваецца Гандяму. I хоць у сучасным індыйскім урадзе ён не займаў ніякага афіцыяльнага становішча, аднак ягоны непаможны дух і веліч душы мелі такі вялікі ўплыў так на індыйскі народ, як і на іншыя народы, што пасьля яго сьмерці даслоўна з усіх куткоў зямлі надыйшлі ў Новыя Дэльфі амаль нязьлічаныя спачувальныя лісты.

Шчырая і адданая служба на карысьць свайго народу і Бога была жыцьцёвым клічам Гандяга. Ён аднойчы пісаў: «Я ўспрыняў рэлігію служэньня, бо я думаю, што толькі гэткім спосабам можна дайсьці да Бога». Недаспадобы быў Гандi толькі левым элемэнтам, таму і загінуў ад злачыннае рукі аднаго з тэткіх сваіх суродзічаў 30-I, якраз тады, калі яго зьняможанага пастом, нясьлі на малітву за народ.

Прысьвячаючы гэтых некалькі радкоў замест вянка на магілу вялікага індыйскага дзеяча і духовага правадыра вялікага Індыйскага Народу, хочацца зьвярнуць увагу на тую невычарпальную крыніцу духовае моцы, з якое Гандi чэрпаў сілы да змаганьня. Тою крыніцаю для Гандяга была малітва. Калі яго пыталіся, што ён думае аб малітве, дык атрымалі такі адказ: «Малітва ёсьць маім маральным і фізычным апірышчам, і маею дзейнаю захаронаю. Без яе я быў-бы лунатыкам, вар'ятам, бо я меў шмат горкіх дазнаньняў. Патрэба і звычай маліцца ў мяне выпрабіліся з канечнасьці; заведзены ў бязвыхаднае становішча, я даручыў сябе Богу... Тады непарушны супакой ахінуў маю душу нават у асяродзьдзі вялікіх супярэчнасьцяў.. Толькі інтэнзыўная малітва змагла задаволіць мой голад Бога... Я не зьяўляюся вучоным, але мне міла назваць сябе чалавекам малітвы».

Як маліўся Магатма Гандi?

Вось для прыкладу некалькі сказаў з аднае яго малітвы, паводля «The Christian Family».

«Госпадзе! ўчыні, каб мае вочы не затрымоўваліся на рэчах, якія могуць у мяне выклікаць дрэнныя думкі, бо я хацеў-бы лепш стацца сьляпым —

«Госпадзе! ўчыні, каб мае вушы ня цешылі-

ся ачорніваньнем, або славамі нянавісьці, бо я хацеў-бы лепш стацца глухім.

«Госпадзе! ўчыні, каб мае вусны не апаганіліся нячыстымі словамі, бо я хацеў-бы лепш стацца нямым.

«Госпадзе! ўчыні, каб я ніколі не глядзеў нячыстым позіркам на тых, каго я мушу ўважаць за сваіх сёстраў, я хацеў-бы лепш памерці»...

Гандзі ня быў хрысьціянінам, згоршаны разьбіцьцём і сэктанствам, але з хрысьціянствам быў азнаёмлены і шмат якія праўды і прыказаньні Хрыста ажыцьцяўляў у сваім прыкладным жыцьці.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БЕЛАРУСКАЯ ПРЭСА НА ЭМІГРАЦЫІ.

Беларуская эміграцыя ў Зах. Эўропе ў 1946 г. мела 19 часапісаў рознае пэрыядычнасьці. З іх толькі адзін выходзіў друкам і толькі 3 па-за Нямеччынаю. У 1947 г. выходзіла 25 розных часапісаў і ўжо 3 выходзіла друкам і 5 па-за Нямеччынаю. За гэты самы час кніжак і брашураў рознага зьместу выйшла: у 1946 г. — 23, а ў 1947 г. — 27, з іх 12 друкам.

### Найстарэйшы чалавек на Беларусі.

Сёньня найстарэйшы векам беларус жыве ў в. Садовая, Аляксандроўскага раёну на Стаўрапальшчыне. Называецца ён Базыль Цішкін с. Сяргея. Сёлета споўніцца яму 143 г. Базыль адчувае сябе яшчэ бадзёра, добра памятае жыцьцё з часоў паншчыны. Бацька Базыля Сяргей Цішкін жыў 137 г., а маці 117 г..

Дагэтуль найстарэйшым чалавекам лічылі турка Велі Саніботлю, які мае цяпер 139 г. і ўжо сьляпы, хоць і адчувае сябе здаровым.

### Пінскі Краязнаўчы Музэй.

Запраўды шчасьцем уцалеў ад ваенных дзеяньняў Пінскі Краязнаўчы Музэй і цяпер ён значна разрастаецца і ўзбагачваецца .Летась у Музэй быў зложаны скарб старавечных манэтаў з XVIII в. у ліку 7490, знойдзены адным вучням. Нядаўна быў адчынены пры Музэю адзьдзел беларускае гісторыі з навейшых часоў, але ў тэндэнцыйным савецкім духу.

## АНГЛІЯ.

### Ангельская прэса аб Беларусах.

Ведамы ангельскі тыднёвік «Католік гэральд» дня 16-1-48 зьмясьціў рэпартаж аб Беларускай Рэлігійнай Місіі ў В. Брытаніі. Аднак аўтар рэпартажу неабазнаны ў нашых нацыянальных і рэлігійныі адносінах, падаў шмат непраўдзівых вестак. У хуткім часе была зроблена адпаведная інтэрвэнцыя і той-жа тыднёвік з дня 30-1-48 зьмясьціў артыкул а. Сіповіча «Беларуская Місія», у якім былі паданыя запраўдныя весткі ня толькі аб самай Місіі, але аб Беларусі агулам. Абодва артыкулы мелі водгук і ў іншых неангельскіх лёндынскіх, асабліва польскіх часапісах.

### Студэнцкая арганізацыя.

Уканцы мінулага году паўстала ў Лёндане Беларускае Хрысьціянскае Акадэмічнае Аб'яднаньне пад назовам «Жыцьцё», якое мае на мэце згуртаваць беларускіх студэнтаў у Англіі, а такжа кандыдатаў на студэнтаў і беларускую інтэлігэнцыю з вышэйшаю асьветаю, каб развіваць свае маральныя і ўмысловыя сілы і аддаць іх на службу агульналюдзкім і агульнабеларускім ідэалам.

### Інфармацыйны бюлетэнь.

Беларускае Хрысьціянскае Акадэмічнае Аб'яднаньне «Жыцьцё» выдала ў студзені гэтага году інфармацыйны бюлетэнь, у якім коратка паведамляе аб гісторыі свайго паўстаньня і падае свой статут.

## АРГЭНТЫНА.

### «Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне».

З вялікаю прыемнасьцю даведваемся, што ў Аргентыне пачала сваю дзейнасьць беларуская арганізацыя пад назовам «Згуртаваньне Беларусаў ў Аргентыне». Адрыс арганізацыі:
**Asociacion Bielorusa en Argentina, Calle Maza 150, Buenos Aires.**

## БЭЛЬГІЯ.

### Легалізацыя.

Гэнэральная Рада Саюзу Беларусаў у Бэльгіі, канчаткова зацьвердзіўшы свой стату, распачала адпаведныя стараньні для праўнае легалізацыі, згодна з дзяржаўнымі законамі.

## КАНАДА.

### Інфармацыйная літаратура.

Усім новым эмігрантам у Канадзе варта ведаць, што Адзьдзел Канадзкага Грамадзянства выдаў кніжачку тымчасам толькі паангельску і пафранцуску: «Як стацца канадзкім грамадзянінам». Кніжку можна дастаць у: **Canadian Citizenship, Branch Department of the Secretary of State, Ottawa. Ontario.**

Акрамя таго Інфармацыйны Адзьдзел пры Міністэрстве Капальняў і Прыродных Багацьцяў сумесна з Таварыствам Асьветы дарослых стараюцца выдаць супольна адпаведную літаратуру для масавага пашырэньня.

### Новы беларускі часапіс.

Супольнымі сіламі новае беларускае эміграцыі ў Канадзе і ЗШПА пароблены стараньні для выдачы беларускага месячніка.

Вітаем беларускі часапіс на амэрыканскай зямлі і жадаем яму спорнае працы.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Новы Адзьдзел Беларускага Харытасу.

У сьнежні мінулага году паўстаў новы адзьдзел Беларускае Харытатыўнае Службы ў беларускім лягэры Остэргофэн.

### Тыдзень малітвы за злучэньне Цэркваў.

У Госляры ад 29-I да 6-II г. г. адбыўся тыдзень малітвы за злучэньне Цэркваў, падчас якога штодзенна правіліся ўрачыстыя Службы Божыя у касьцеле сьв. Якуба, а ў апошнюю надзелю было выгалашана адпаведнае казаньне. У багаслужэньнях удзельнічалі беларусы, украінцы і немцы.

### Спатканьне Новага Году ў лягэры Остэргофэн

Сёлетняе спатканьне Новага Года ў остэргофэнскім лягэры было спалучана з 30-мі ўгодкамі Першага Усебеларускага Кангрэсу. На ўрачыстасьці прысутнічаў прэз. інж. М. Абрамчык, які ў кароткіх, але зьмястоўных словах выказаў гісторыю і асаблівы склад ды імкненьні ўдзельнікаў першага Кангрэсу і яго гістарычнае значэньне. Наступна быў прачытаны зьмястоўны гістарычны рэфэрат прынагаднага зьместу.

Другая частка вечара была прысьвячана спатканьню Новага 1948 Году. Заслугоўвае на ўвагу прамова прадстаўніцы Жаночага Аб'яднаньня, якая глыбока закранула сэрцы прысутных сваім заклікам да працы на карысьць Бацькаўшчыны і ўсяго людзтва, належна ўзгадоўваючы дзяцей і моладзь, ды ня трацiць бескарысна час, каб з чыстым сумленьнем і годнасьцю магчы вярнуцца на свае родныя прасторы.

Уканцы складаў свае Навагоднія пажаданьні прадстаўнік Беларускае Харытатыўнае службы. Між іншым ён сказаў: «Наша арганізацыя ў остэргофэнскім лягэры наймалодшая, але затое ў хрысьціянскай эры яна найстарэйшая. Заснавальнікам яе ёсьць сам Хрыстос падчас свайго туземнага жыцьця, а першымі сябрамі яе былі апосталы. Гэтая арганізацыя разам з хрысьціянствам прайшла праз катакомбы, перажыла часы Нэрона і нязьлічаную колькасьць ворагаў. Над ёю лютавалі розныя гістарычныя буры і прасьледаваньні; На нашых вачох загінуў заўзяты вораг хрысьціянства фашызм-гітлерызм, а хрысьціянства з ягонымі арганізацыямі асталося ня толькі непахісным, але здабывае сабе сілу і магутнасьць. Гэта дзеецца таму, што хрысьціянства стаіць на наймацнейшай Пятровай скале. Хрысьціянства не варожыць: або згінем, або пераможам. Не! яно перакананае ў сваёй перамозе. Усялякія сілы могуць хрысьціянству перашкаджаць толькі на кароткі час у пашырэньні і паглыбленьні ідэяў Хрыста, але зьнішчыць ніколі ня здолеюць. Бываюць часы і краіны, дзе з першага павярхоўнага пагляду можа выдавацца, што ідэі Хрыста і агулам вера ў Бога гіне, але ў запраўднасьці ўсюды яны глыбока закарэнены ў сэрца і ўсюды пры першай нагодзе ажываюць, Ідэі Хрыста, гэта перадусім ідэі любові бліжняга супроць якое так змагаюцца ўсе злыя сілы. Мы ўсе бяз вынятку належым да аднае з гэтых сілаў. Кожны сам аб сабе ведае да якое з іх ён належыць. Каб спрыяць пашырэньню любові бліжняга, трэба дапамагаць яму... зачынаючы ад найблжіэйшых з свайго народу.

Каб дапамагаць, трэба перш самому мець, дык вось маё Новагодняе пажаданьне, каб у 1948 г. мы нятошто не патрабавалі дапамог ад іншых, але каб самі маглі шчодра памагаць патрабуючым і каб найхутчэй маглі вярнуцца на Бацькаўшчыну».

Пасьля прамоваў адбылася канцэртная частча вечару.

### Мэнхэгофэнская сьвятыня.

Беларусы-каталікі жыхары лягэру Мэнхэгоф, як толькі там абжыліся,пабудавалі прыгожую сьвятыню-касьцёл у рэзыдэнцыі гэскіх князёў Вільгэльмшталь. Аднак з прычыны адсутнасьці беларускага сьвятара, Службы Божыя ў ім служылі палякі або літоўцы. Таму што гэтыя багаслужэньні прычыняліся да большае хвалы Божае, дык беларусы ня выказвалі ні слова супраціву і самі ў іх удзельнічалі. Карыстаючы з моўчанкі беларусаў, у польскай газэце «Кроніка» з дня 25-XII-47 зьявіўся артыкул пад назовам «Польская праца на чужыне», у якім прысабечваецца палякамі прыгожы твор беларускае эміграцыі — касьцёл у Мэнхэгоф. З гэтага відаць, што беларусам варта больш рэклямаваць свае творы, інакш заўсёды скарыстае нехта іншы.

### Студэнты наведваюць беларускія асяродкі.

Падчас Калядная перапынку ў навуцы, беларускія студэнты аб'ехалі з канцэртамі беларускія асяродкі ў амэрыканскай зоне Нямеччыны.

Так самы беларусы, як і нашы суседзі скрозь віталі і гасьцілі мілых госьцяў з радасьцю, а залі падчас канцэртаў заўсёды былі перапоўнены, бо запраўды было чаго паслухаць і паглядзець.

Якое ўражаньне пакідалі пасьля сябе студэнты, хай сьведчыць дробны выпадак у Мітэнвальдэ. Там дня 25-12 ня гледзячы на перашкоды з боку расейцаў студэнцкі канцэрт прайшоў вельмі ўдала і з нябывалым посьпехам. Заля была перапоўнена беларусамі і украінцамі. Адна з

прысутных піша: «Гэты дзень быў для нас вялікім сьвятам... На ўсіх прысутных студэнты зрабілі незатёртае ўражаньне. Калі адна з студэнтак дэклямавала верш Я. Купалы «Нёман», мой сусед украінец закрыў сабе аблічча, а потым пачаў быццам адкашлівацца, а на перапынку мне сказаў: «Слухаючы патрыятычныя вершы Шэўчэнка, або Я. Купалы, калі яны добра дэклямуюцца, я заўсёды мушу мець хустачку». Калі так было з украінцам, дык ці трэба казаць, як было з намі — беларусамі».

Ува ўсіх лягэрах, якія адведалі студэнты, яны акрамя канцэртаў стараліся наладзіць вечарыны-спатканьні з моладзьдзю і старэйшымі.

## ФРАНЦЫЯ.

### Госьць з Англіі.

У пачатку студзеня адведаў Парыж старшыня ЗБВБ пр. В. Грышкевіч і на запросіны Сындыкату Беларускіх Работнікаў у Францыі дня 3-1 у залі сындыкату прачытаў рэфэрат на тэму: «Усход і Захад». Пасьля рэфэрату адбылася кароткая сяброўская гутарка. Прысутныя былі вельмі ўдзячныя паважанаму прэлегэнту за яго зьмястоўны рэфэрат і цікавыя інфармацыі.

### Гадавы Сход.

Дня 11-1 г.г. адбыўся гадавы Сход парыскага адзьдзелу Беларускага Сындык. Работнікаў, на якім пасьля ўступнага рэфэрату адбыліся перавыбары ўраду.

### Сяброўскі вечер.

У суботу, 24-1, у салі Хрысьціянскага Сындыкату адбылася сяброўская забава для беларускае калёніі ў Парыжу, з ўдзелам запрошаных госьцяў. Вечар прайшоў запраўды ў сяброўскім настроі.

### АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД.

Дня 28-III г.г. у салі Сындыкату Хрысьціянскіх Работнікаў адбудзецца агульны Зьезд Сындыкату Беларускіх Работнікаў у Францыі. Зьезд будзе спалучаны з урачыстаю акадэміяю ў чэсьць трыццатых угодкаў абвешчаньня незалжнасьці Беларусі і таму пажаданы якнайчысьляньнейшы ўдзел сяброў Сындыкату.

Аб праграме Зьезду павядоміцца асобна.

## БІБЛІЯГРАФІЯ

**«Музыка і чэрці».** Выданая ў Госьляры 1947 г. беларуская народная казка на 16 бач. фармату 16, зьвяртае на сябе асабліваю увагу сваім эстэтычным вонкавым выглядам і добрымі каляровымі ілюстрацыямі, якія гарманізуюць з глыбокім маральным зьместам казкі. Гэтая брашурка зьяўляецца добрым укладам ў нашу нешматлікую эміграцыйную літаратуру.

М. Сяднёў — **«У акіяне ночы»,** Мюнхэн, 1947.бач. 88 фарм. 16. Гэты чарговы зборнік вершаў шырока ведамага нашага пісьменьніка можна прывітаць з асабліваю радасьцю, бо ў сваіх заўсёдных пошуках і глыбокай лірыцы, паэта знайшоў сабе магутную падтрымку ў Бога, і гэта запаліла ў паэты «агонь сьвяты, агонь таёмны», які зможа запаліць сэрца не аднаго чытача, да лепшага жыцьця.

## ПОШУКІ.

Жонку **Трупчык** Тацяну з дому Бойко шукае Трупчык Піліп. Пісаць на адрыс:
Truptshik Philiph, Puit Nr. 9, Grand Hornu. à Hornu, Les Mons, Hainaut, Belgique.

Язэпа **Славінскага** нар. 1926 у ас. Пузіневічы каля Турца шукае матка Аўгеня Славінская з дому Сабалеўскіх. Апошнія весткі ад яго былі з Альзацыі ў 1945 г. Пісаць на адрыс:
Eugenia Slawinska, Ontario-Camp, near Hindhead, Surrey, England.

**Русая** Марыя просіць сваіх родных і знаёмых адгукнуцца на адрыс радакцыі.

**Міцура** Валентына просіць сваіх знаёмых адгукнуцца на адрыс радакцыі.

**Ковцік** Аляксей шукае: жонку **Ковцік** Алену, швагерку **Бойко** Марыю і іх матку **Бойко** Ганну — усе яны былі вывезены ў 1944 г. на прымусовую працу ў Нямеччыну.

**Грыца** Янку нар. у 1926 г. у в. Тарасавічы, які апошнім часам прабываў у Расштат-Бадэн, шукае Грыц Марыя.

**Роўбу** Дзімітра, які да 1944 г. быў у францускай арміі, шукае Калесьнікевіч М.

Пісаць на адрыс радакцыі.

## ЗЬМЕСТ.




Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.